*Верталёт з А.Лукашэнкам узлятае з тэрыторыі новага Баранавічскага дзяржаўнага універсітэта пасля сустрэчы "правадыра" са студэнтамі, г.Баранавічы, 1 верасня 2004 года. Перад узлётам верталёта супрацоўнікі міліцыі кантралявалі, каб на прыпынку і ўздоўж агароджы універсітэта нікога не заставалася. Зганялі народ з кожнай узвышанасці — камянёў, лаваў, не дазвалялі збірацца групамі...*

**Фота photo.bymedia.net**

ПУЛЬС

## Без гарачай вады

### застануцца жыхары некаторых раёнаў Мінска

У некаторых раёнах Мінска працягнецца работа па замене састарэлых трубаправодаў і рамонце іх пашкоджаных участкаў для падрыхтоўкі сталічных цеплавых сетак да зімы.

У сувязі з гэтым гарачае водазабеспячэнне з 1 па 4 верасня будзе адсутнічаць у дамах уздоўж вуліц: Мендзялеева (№№ 20—32), Сталетава (другі дом), Бумажкова (дом № 39), Акадэмічная (дамы 6—30, 3—27), Броўкі (3—27, 12—24), Сурганава (1—13, 2—18), Платонава (22—36, 39—45), Чорнага (2—34), Мяржынскага (1—13, 2—8), Калініна (1—9, 2—16), Талбухіна (1—15), а таксама ў дамах 1—17 па завулку Інструментальнаму, у дамах 1—11 па завулку Чорнага і ў дамах 66—80, 79—93 па праспекце Скарыны.

З 6 па 10 верасня гарачай вады не будзе ў некаторых дамах уздоўж вуліц: Маякоўскага, Надзеждзінская, Лугавая, Дзяніcаўская, Сямёнава, Палявая, Казыраўская, Фізкультурная, Вялікаморская, Сонечная, зав. Дачны, Барадзінская, Палтаўская, Вільямса, Магілёўская, Валадзько, Варанянскага, Ляўкова, Быхаўская, Сенніцкая, Брылеўская, Жукоўскага, Пензенская, Чкалава, Авакяна, Аэрадромная, Караткевіча, Аўтадараўская.

**Лавінія АРЭШКА.**

## Ад урада Польшчы

Урад Польшчы прыняў рашэнне выплачваць грашовыя дапамогі ветэранам Другой сусветнай вайны, якія жывуць у Брэсцкай вобласці і ваявалі ў польскай арміі. Пра гэта паведаміў намеснік старшыні Брэсцкага абласнога саюза палякаў па справах ветэранаў **Генрых Стыпановіч.**

Паводле звестак Г.Стыпановіча, зараз на тэрыторыі Брэсцкай вобласці жывуць каля 400 такіх ветэранаў. "Урад Польшчы па заслугах ацаніў іх подзвіг — кожнаму з гэтых ветэранаў цяпер штоквартальна выплачваецца грашовая дапамога. Яе памер у пераліку з польскіх злотых складае амаль 120 амерыканскіх долараў", — сказаў намеснік старшыні Брэсцкага абласнога саюза палякаў.

**Ларыса ШЫГАНАВА.**

## Ірына Вялянкова — у Гімалаях

2 верасня вядомая беларуская альпіністка **Ірына Вяленкова** адправілася ў Гімалаі, каб у складзе міжнароднай экспедыцыі падняцца на адну з найвышэйшых вяршынь планеты — Чо-Айю (8201 м).

У гэтую экспедыцыю, прысвечаную 50-годдзю першага ўзыходжання на Чо-Айю, самую знакамітую альпіністку Беларусі запрасіў віцэ-прэзідэнт Міжнароднай асацыяцыі гораўзыходжвальнікаў **Анг Тсерынг** з Непала. У складзе інтэрнацыянальнай каманды — 10 спартсменаў з ЗША, Аўстраліі, Японіі, Бельгіі і іншых краін. Ірына Вялянкова — адзіная сярод іх прадстаўніца прыгожага полу.

*"Канешне, цяжка ісці на гару з такой рознай і незнаёмай кампаніяй,* — падзялілася беларуска з карэспандэнтам БелаПАН напярэдадні ад'езду. — *Але некалькі супакойвае тое, што маім партнёрам па звязцы будзе непалец* ***Мінгма Гелу Шэрпа****. Яго мне парэкамендавалі як надзейнага і вопытнага вышынніка".*

Плануецца, што экспедыцыя на Чо-Айю дасягне мэты ў сярэдзіне кастрычніка, пасля чаго яе ўдзельнікі возьмуць удзел у юбілейных урачыстасцях у сталіцы Непала Катманду.

Чо-Айю — шостая па вышыні вяршыня свету. Знаходзіцца на мяжы Непала і Тыбета. З тыбецкай Чо-Айю перакладаецца як "Галава бога" або "Багіня Бірузы". Першымі на вяршыню ўзышлі аўстрыйцы **Герберт Ціхі** і Іосіф Ёхлер у суправаджэнні непальца **Пазанг Дава Ламы** — гэта адбылося 19 кастрычніка 1954 года. У маі 2004 года на Чо-Айю ўпершыню ўзышлі беларускія альпіністы **Міхаіл Мельнікаў, Анатоль і Віктар Лутавы.**

**Юрый ВЕЛЬТНЕР.**

ЗДАРЭННІ

## Бомж-забойца

Да 16 гадоў пазбаўлення волі прысуджаны бомж з Лепеля (Віцебская вобласць), раней неаднаразова судзімы.

Як паведамілі БелаПАН у прэс-цэнтры рэспубліканскай пракуратуры, у жніўні мінулага года, знаходзячыся ў стане алкагольнага ап'янення, ён збіў свайго малодшага брата, зламаўшы яму сківіцу.

У красавіку 2004 года ён, зноў будучы п'яным, пасварыўся са сваім 72-гадовым бацькам і стаў яго збіваць. Ад атрыманых пабояў састарэлы чалавек памёр на месцы.

Вывучыўшы справу аб сваяцкіх "разборках" бамжа, судовая калегія па крымінальных справах Віцебскага абласнога суда прыгаварыла яго да працяглага тэрміну турэмнага зняволення.

## Падпаліў бацьку

Замах на забойства пенсіянера ў вёсцы Гуракі Дубровенскага раёна (Віцебская вобласць) раскрыты супрацоўнікамі раённай міліцыі і пракуратуры. Пенсіянер быў знойдзены непадалёк ад свайго дома з тэрмічнымі апёкамі 2-й і 3-й ступеняў.

Як паведамілі БелаПАН у прэс-цэнтры рэспубліканскай пракуратуры, высветлілася, што злачынства падчас узніклай сваркі пасля сумеснага распіцця спіртных напояў учыніў непрацуючы сын пацярпелага. Ён абліў свайго бацьку бензінам і падпаліў.

У выніку пенсіянер дастаўлены ў Віцебскую абласную бальніцу, а падпальшчык затрыманы супрацоўнікамі праваахоўных органаў. У дачыненні да яго заведзена крымінальная справа.

**Андрэй АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

## Дзяцей выратаваць не змаглі

Тры малалетнія дзяўчынкі загінулі падчас пажару, які адбыўся 1 верасня ў вёсцы Сакольнікі Віцебскага раёна.

Як паведамляе прэс-служба МНС, апоўдні пажар убачыла суседка і выклікала ратавальнікаў. З-за позняга выяўлення пажару да прыбыцця пажарных разлікаў драўляны будынак быў поўнасцю ахоплены полымем.

У доме знаходзіліся трое малалетніх дзяцей, пакінутых без догляду дарослых. Яшчэ двое дзяцей разам з сужыцелем гаспадыні раніцай адправіліся на заняткі ў школу.

Агонь знішчыў дах, перакрыццё і маёмасць у доме. Прычынай пажару маглі стаць дзіцячыя гульні з агнём.

**Дзмітрый БЕЛЬСКІ.**

АЛЬТЕРНАТИВНОЕ МНЕНИЕ

*В "Народной воле" была опубликована статья профессора, доктора экономических наук Бориса Желибы. Называлась она — "Белорусская головоломка".*

*Министерство статистики и анализа решило ознакомить читателей со своим мнением и замечаниями по вышеназванной публикации.*

*Статья профессора, доктора экономических наук Б.Желибы "Белорусская головоломка" и особенно вопрос в подзаголовке "Стоит ли доверять нашей статистике?" звучит как обвинение. Поэтому Министерство статистики и анализа Республики Беларусь считает нужным высказать свое мнение, а также замечания по поднятым в ней вопросам.*

# ...Прежде чем бить в колокола

Говоря о темпах роста ВВП, господин Б.Желиба подчеркивает, что оценка темпов роста ВВП осуществляется в "так называемых сопоставимых ценах".

Министерство статистики и анализа Республики Беларусь осуществляет расчеты ВВП в текущих и сопоставимых ценах в соответствии с международной методологией, которая используется более чем в 150 странах мира. В основу построения национальных счетов Республики Беларусь и расчета ВВП положена методология, принятая в 1993 году Комиссией Европейских сообществ, Международным валютным фондом, Организацией экономического сотрудничества и развития (ОЭСР), Организацией Объединенных Наций и Всемирным банком (СНС-93). Практическую помощь статистическим органам республики в переходе на национальное счетоводство оказывали эксперты ОЭСР, а также специалисты-эксперты Международного валютного фонда, постоянно работавшие в Минстате с 1993 по 2000 год. Основными направлениями работы экспертов являлись изучение соответствия международным стандартам методологии, применяемой в Республике Беларусь, анализ построения национальных счетов и рекомендации по их совершенствованию. Для анализа динамики показателей системы национальных счетов и в первую очередь ВВП их пересчитывают в сопоставимые цены. Расчеты в сопоставимых ценах — это статистический инструмент, который используют во всех странах мира.

Говоря, что "белорусская методика подсчета ВВП существенно отличается от международной, у них засчитывается в ВВП все, что реализовано, у нас — все что произведено, включая те же остатки готовой продукции на складах и т.д.", автор показывает свою некомпетентность в методологии построения национальных счетов.

Упомянутое выше Руководство по составлению национальных счетов (СНС-93) предусматривает, что *производственная деятельность имеет первостепенное значение в СНС. Сфера производства в Системе включает производство всей продукции, фактически предназначенной для реализации на рынке.* Объем произведенной продукции можно определить двумя способами. Во-первых, берется просто объем произведенной продукции, как делается в Республике Беларусь. Во-вторых, как отмечает автор статьи, берется объем реализованной продукции, но *с учетом корректировки на запасы готовой продукции на складах на начало и конец периода* (о чем автор умалчивает), что практически соответствует объему произведенной продукции. Используемый в Республике Беларусь метод одобрен международными экспертами, работавшими в Минстате, как не противоречащий СНС-93. Такой метод применяют все страны СНГ и некоторые развитые страны.

Кроме того, заявление автора статьи о том, что "сомнения по поводу бурного роста нашего ВВП постоянно выражают эксперты МВФ и Всемирного банка" из-за несовершенства нашей методологии, абсолютно не обоснованно. Все эксперты международных организаций, осуществляющие ревизию национальных счетов Республики Беларусь, отмечали в своих отчетах соответствие методологии расчета ВВП в нашей стране международным стандартам, включая Доклад последней миссии МВФ "О соблюдении стандартов и кодексов" (РОСК) от 24 июня 2004 г. и "Памятную записку по итогам работы миссии Всемирного банка по подготовке Странового экономического меморандума" от 1—12 июня 2004 г.

Что касается критики господина Б.Желибы в адрес данных статистики о несоответствии темпов роста ВВП и темпов роста грузооборота транспорта, то хотелось бы предложить автору рассмотреть составляющие грузооборота и провести анализ, позволяющий определить степень их влияния на изменение данного показателя в целом.

Итак, грузооборот транспорта исчисляется как произведение объема перевезенных грузов в тоннах на расстояние перевозки в километрах. Как видно из определения, на изменение грузооборота оказывают влияние как изменение объема перевезенных грузов, так и изменение расстояния, на которое эти перевозки осуществляются.

Темп роста грузооборота организаций транспорта общего пользования в 1 полугодии 2004 года по сравнению с 1 полугодием 2003 года составил 104%, *при темпе роста объема перевезенных грузов за этот период — 107,7%.* Следовательно, на изменение грузооборота повлияло сокращение дальности перевозимых грузов, т.е. грузы стали перевозить на более короткие расстояния.

Кроме того, при сопоставлении темпов роста грузооборота с темпами роста ВВП и промышленного производства необходимо учитывать тот факт, что пятая часть перевезенных грузов — транзит, т.е. грузы, непроизведенные в нашей республике.

В текущем году наблюдается уменьшение транзитных перевозок через Республику Беларусь. В I полугодии 2004 года по сравнению с I полугодием 2003 года объем грузов, перевезенных транзитом, снизился на 12,2%. Поэтому, если из общего объема перевезенных грузов исключить транзитные перевозки, то темп роста объема перевозок грузов в I полугодии 2004 года по сравнению с I полугодием 2003 года составит 114,7% при темпе роста объема промышленного производства за этот же период 114,4% и темпе роста ВВП — 110,2%. Для сведения, объем транзитных перевозок в 2003 году был выше, чем в 2002 году, на 20%, в 2002 году по сравнению с 2001 годом — на 19%.

Крайне ошибочно предположение автора об увеличении запасов готовой продукции на складах предприятий. В I полугодии 2004 г. удельный вес запасов готовой продукции на складах промышленных предприятий республики в объеме промышленного производства в фактических ценах составил 9,7%, против 12,2% в I полугодии 2003 г. и 12,6% в I полугодии 2002 года. Соотношение запасов на 1 июля 2004 г. и среднемесячного объема промышленного производства в фактических ценах за январь—июнь 2004 г. составило 58,1%, что значительно ниже, чем за январь—июнь 2003 и 2002 гг. (73,3% и 75,6% соответственно).

Что касается объективности роста реальной заработной платы, то действительно рост ее в 2003 г. по сравнению с 2000 на 44,2% и в I полугодии 2004 г. по сравнению с I полугодием 2003 на 13,1% подтверждается снижением уровня малообеспеченности населения. Так, если в 2000 г. доля населения республики с уровнем доходов ниже бюджета прожиточного минимума была 41,9%, то в 2003 г. она снизилась до 27,1%, а в I полугодии 2004 г. — до 20,7%.

Рост реальной заработной платы подтверждается также ростом ее покупательной способности, что видно из данных приведенной таблицы.

***Количество каждого вида товара, который можно купить за среднемесячную заработную плату; килограммов, единиц***

| | Июнь 2002 г. | Июнь 2003 г. | Июнь 2004 г. |
|---|---|---|---|
| Хлеб ржано-пшеничный | 415 | 461 | 486 |
| Говядина | 64 | 74 | 75 |
| Свинина | 58 | 74 | 75 |
| Птица | 64 | 72 | 80 |
| Колбаса вареная I сорта | 62 | 69 | 74 |
| Масло сливочное | 48 | 50 | 54 |
| Молоко (литр) | 458 | 478 | 527 |
| Сахар | 255 | 202 | 278 |
| Рыба свежемороженая | 58 | 70 | 88 |
| Картофель | 398 | 435 | 1092 |
| Водка (литр) | 41 | 36 | 41 |
| Телевизор цветной | 0,6 | 0,7 | 0,9 |
| Холодильник | 0,5 | 0,5 | 0,6 |
| Костюм мужской полушерстяной | 2,5 | 2,8 | 3,2 |
| Пальто мужское полушерстяное | 1,9 | 2,4 | 2,9 |
| Пальто женское полушерстяное | 1,6 | 1,8 | 1,9 |

В заключение хотелось бы напомнить, что Министерство статистики и анализа открыто для кого бы то ни было в предоставлении как цифрового материала, так и методологии расчетов. Если бы, прежде чем писать, бить в колокола, авторы обращались в Минстат за разъяснениями, то не пришлось бы давать эту альтернативную публикацию.

**Министерство статистики и анализа Республики Беларусь.**

## От редакции

Выражая признательность Министерству статистики и анализа Республики Беларусь за внимание к публикациям "Народной воли", не отказывая ему в праве на разъяснения нашему постоянному автору Б.Желибе по конкретным позициям его статьи "Белорусская головоломка", редакция газеты хотела бы довести до читателей такую информацию.

На днях представительство Международного валютного фонда в Республике Беларусь распространило заявление для прессы. В нем, в частности, говорится:

*"Применяя Основу оценки качества данных (ООКД) МВФ, миссия пришла к заключению о том, что белорусская статистика имеет ряд сильных сторон, таких как высокий профессиональный уровень сотрудников всех упомянутых ведомств. Миссия также отметила, что за последние несколько лет качество макроэкономической статистики Республики Беларусь в ряде областей значительно улучшилось. Все системы данных находятся на разных уровнях соответствия международно признанным методическим руководствам, и некоторые системы данных получили высокие оценки за точность и достоверность. Большинство систем данных характеризуется внутренней и временной сопоставимостью и доступны своевременно и с хорошей частотой. Денежно-кредитная статистика и статистика платежного баланса предоставляются пользователям в удобной форме и своевременно.*

*Обследование пользователей, проведенное миссией, показало, что качество источников и методов зачастую непонятны и что во многих направлениях существует возможность усовершенствования. Среди широкого круга пользователей наблюдается обеспокоенность по поводу точности и достоверности фактических выходных данных, например, в отношении ВВП, промышленности и сельского хозяйства. Следует также признать, что даже несмотря на применение международно-признанных методологий, до тех пор пока в статистическом процессе используются искаженные основные входящие данные, выходные статистические данные также будут искажены. Поэтому для повышения доверия к официальной статистике всем ведомствам Республики Беларусь, занимающимся статистикой, следует и далее улучшать свою оценку входных данных и процедур сверки".*

## Што адбіваецца ў водным люстэрку?

Падобна на тое, што беларускі бізнес пачынае ўсведамляць сваю адказнасць за стан і развіццё нацыянальнай культуры. Пра гэта сведчыць мастацкая выстава, якую кампанія "Амазон" наладзіла ў галерэі Універсітэта культуры, што месціцца ў цокальным паверсе Палаца Рэспублікі. Назва экспазіцыі "Вада. Інтэрпрэтацыі". Якасная, экалагічна чыстая вада — гэта прадукцыя "Амазон". Праз запамінальныя мастацкія вобразы адбываецца рэклама кампаніі, ствараецца яе станоўчы вобраз у вачах спажыўцоў. І мастакі не ў крыўдзе на спонсара: іх творчасць набывае матэрыяльную падтрымку і грамадскі розгалас. Па такой схеме даўно працуюць на Захадзе. Яна паціху пачынае засвойвацца і ў нас. Падтрымка мастацтва становіцца знакам рэспектабельнасці, уласная мастацкая калекцыя — элементам прэстыжу.

Для ўдзелу ў гэтай выставе запрошаны мастакі розных стылёвых напрамкаў і почыркаў. Гэта зроблена свядома, каб давесці неабсяжнасць тэмы і яе магчымых інтэрпрэтацый. Вада — прарадзіма ўсяго жывога на Зямлі, невычэрпная крыніца энергіі, нарэшце — эстэтычная каштоўнасць.

У экспазіцыі знайшлося месца рэалістычнаму краявіду, эратычным матывам, іроніі, рамантыцы, фантастыцы. Дбаючы пра свой імідж, арганізатары паклапаціліся пра суквецце імёнаў: жывапісцы Зоя Луцэвіч, Сяргей Малішэўскі, Іван Кліменка, скульптары Віктар Копач, Валянцін Борзды, мастакі-прыкладнікі Вольга Сазыкіна, Ала Свірыдэнка ды іншыя з такога ж шэрагу. Трэба дадаць, што экспазіцыя зроблена надзвычай карэктна, з густам.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ.**

НУ И НУ!

## Случай или технический «цензурный терроризм»?

Одной из тех, кто претендует на депутатство в Палате представителей, является заместитель председателя Объединенной гражданской партии Людмила ГРЯЗНОВА. Несмотря на то, что она выдвинута кандидатом в депутаты от ОГП на партийном съезде, Людмила Грязнова собирает подписи в своем округе.

Позавчера вечером произошел случай, который заставил усомниться в честности действий определенных органов, существующих в нашей стране. А конкретнее — как она еще раз убедилась, разговоры по сотовым телефонам и даже в том случае, когда их обладатели в данный момент не общаются с кем-либо посредством мобильной связи, **прослушиваются.**

Вот что рассказала Людмила Грязнова:

— Позавчера я обходила квартиры по улице Захарова и собирала подписи жителей. В одной из квартир вдруг зазвонил мой сотовый телефон, и встревоженная руководитель моих волонтеров Татьяна Зелко спросила: "Людмила, ты мне звонила? Я слышала весь твой разговор с жильцами квартиры". Я ответила, что никому не звонила и ее номер не набирала. Произошла какая-то странная ситуация. В памяти моего сотового телефона ее номера не было, но весь мой разговор с жильцами был слышен в ее телефоне. Прозвучал звонок, она подняла трубку и слышала мой разговор с жильцами. Я считаю, что из-за каких-то технических проблем прослушанный мой разговор был транслирован на ее телефон.

Чем это может быть вызвано? Конечно же, власть боится парламентских выборов, она хочет знать наши намерения, настроения населения и, вероятно, использует такую прослушку, включенную в сотовые телефоны тех, кто ходит по квартирам.

Мы не проводим никакой подрывной работы, работаем с людьми и никакими секретами не обладаем. Будем продолжать работать, а власть пусть знает об истинных настроениях людей, которые в большинстве не поддерживают этот режим.

**Геннадий КЕСНЕР.**

ВЫБАРЫ

# Міліцыя аб'яўляе кандыдатаў у вышук

### *І пагражае адказнасцю за нявыплату аліментаў*

*"Сітуацыя з рэгістрацыяй і ціскам на магчымых кандыдатаў і ўдзельнікаў ініцыятыўных груп блока "Маладая Беларусь", мяркую, мала чым адрозніваецца ад сітуацыі ў іншых дэмакратычных партыях,* — кажа старшыня незарэгістраванага "Маладога фронту" Павел Севярынец. — *На першым этапе перадвыбарнай кампаніі сышоў прадстаўнік "Маладой Беларусі" Сяржук Бахун з Брэста: ініцыятыўную групу палітыка не зарэгістравалі, паколькі дакументы ў Цэнтрвыбаркам ён даслаў па пошце. Былі спробы нерэгістрацыі і Зміцера Дашкевіча, які вылучаецца ад Мінскай-Купалаўскай акругі №97: раптам у складзе яго ініцыятыўнай групы "знайшоўся" непаўналетні ўдзельнік, і калі б не своечасова пададзеная ў Цэнтрвыбаркам скарга, Дашкевіч таксама з дыстанцыі сышоў бы. Не зарэгістравалі і маладога палітыка Віталя Зыблюка, паколькі 21 год яму споўніцца толькі на момант парламенцкіх выбараў. Атрымалі адмову Генадзь Кучко з Брэста і Андрусь Хоміч з Маларыты.*

*Схема тыповая — члены ініцыятыўных груп "раптам" адмаўляліся ад сваіх намераў удзельнічаць у кампаніі. Падобнае адбылося і ў Магілёўскай акрузе, калі выклікалі членаў ініцыятыўнай групы прэтэндэнта Філімонава і прымушалі пісаць адмовы. Шэраг прэтэндэнтаў яшчэ да пачатку выбарчай кампаніі адмовіліся ад удзелу на карысць іншых прадстаўнікоў ад дэмблокаў".*

Такім чынам, на перадвыбарнай дыстанцыі засталіся прадстаўнікі "Маладой Беларусі" Аляксей Шэін (Маладзечанская-Сельская акруга № 86); Кастусь Лукашоў (Мінская-Уручская акруга № 109); Зміцер Дашкевіч(Мінская-Купалаўская акруга № 97); Андрусь Мялешка (Гарадзенская № 51); Мікола Арцюхоў (Нясвіжская № 87); Яўген Лабко (Лідская-Гарадская № 56); Алесь Зарамбюк (Мастоўская № 58); Павел Севярынец (Віцебская-Горкаўская №17); Зміцер Баеў (Жлобінская акруга № 42); Павел Красоўскі (Жодзінская акруга № 81). Дарэчы, у Жодзіне паралельна з выбарамі ў Палату прадстаўнікоў пройдуць і давыбары ў мясцовы Савет. Паводле слоў Паўла Севярынца, у давыбарах моладзь возьме самы шчыльны ўдзел. У астатніх акругах па пэўных прычынах прозвішчы прадстаўнікоў "Маладой Беларусі" не рассакрэчваюцца, паколькі зараз маладыя людзі вядуць перамовы з людзьмі ад іншых дэмблокаў. *"Да таго ж мы зараз прымаем рашэнне аб вылучэнні некаторых нашых прадстаўнікоў, якія не прайшлі першыя этапы рэгістрацыі, праз палітычныя партыі,* — кажа Павел Севярынец. — *Усе сітуацыі з ціскам на магчымых кандыдатаў і членаў ініцыятыўных груп мы фіксуем і рыхтуем запыты ў пракуратуру, ЦВК і акруговыя выбарчыя камісіі. Толькі ў сваёй акрузе я сутыкнуўся з сітуацыяй масавага апавяшчэння выбаршчыкаў аб тым, што яны павінны галасаваць толькі за палітыкаў, у падтрымку якіх ставілі подпісы. Сотні выбаршчыкаў казалі мне адкрытым тэкстам, маўляў, мы ўжо свой голас аддалі, таму галасаваць не пойдзем. Яны зазначалі, што такую інфармацыю ім паведамлялі члены ініцыятыўных груп кандыдатаў ад улады і папярэджвалі не адчыняць дзверы іншым прэтэндэнтам. Хацеў бы ўзгадаць у гэтай сувязі артыкул Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь аб перашкодзе выбарчаму праву і папярэдзіць некаторых "спадароў", што за падман выбаршчыкаў прадугледжаны тэрмін — два гады пазбаўлення волі,* — падкрэслівае малады палітык. — *Абсалютна разбэшчана паводзяць сябе зарэгістраваныя ў гарвыканкамах і аблвыканкамах мясцовыя СМІ. У выданнях прадстаўнікам ад улады прысвечаны цэлыя палосы, друкуюцца іх праграмныя выступы, фотаздымкі, прамыя лініі. Адным словам, для вядзення выбарчай кампаніі створаны цалкам няроўныя ўмовы",* — зазначыў Севярынец.

*"Нядаўна да мяне заявілася міліцыя, шукаючы, па іх словах, бацьку за нявыплачаныя аліменты,* — кажа прадстаўнік "Маладой Беларусі" Аляксей Шэін. — *Сітуацыя, канешне, камічная, паколькі я ніколі не быў жанаты і дзяцей у мяне няма. З аліментамі ў рэшце рэшт адчапіліся, але праз пэўны час завітаў участковы з паперкай "вышук" і паведаміў, што на мне вісіць няўплачаны з 2001 года штраф за вулічную акцыю. Наступ на дэмакратычных прадстаўнікоў ідзе поўным ходам: такім чынам выбаршчыкам даюць зразумець, што ў прэтэндэнтаў на парламенцкае крэсла не ўсё добра з законам",* — кажа Шэін.

**Міраслава МІРАНОВІЧ.**

«МАБІЛЬНЫЯ» НАВІНЫ

## З мабільнікам — амаль кожны пяты

На 1 верасня ў Беларусі налічвалася больш за 1 млн. 865 тыс. карыстальнікаў мабільнай сувяззю. За жнівень колькасць абанентаў сотавай сувязі трох аператараў мабільнай сувязі павялічылася больш як на 123 тысячы.

*Самай вялікай абаненцкай базай* у краіне па-ранейшаму валодае СП ТАА "Мабільная лічбавая сувязь" — больш за 900 тыс. абанентаў. На працягу жніўня да сеткі гэтага аператара падключылася больш за 40 тыс. карыстальнікаў.

***Лідэрам па тэмпах падключэнняў*** да сеткі застаецца сумеснае ТАА "Мабільныя ТэлеСістэмы". На 1 верасня абаненцкая база кампаніі налічвала 895 тыс. абанентаў. Яе месячны прырост за жнівень склаў 78 тыс. абанентаў. У кампаніі падкрэслілі, што гэта "рэкорд за ўсю гісторыю існавання беларускага рынку мабільнай сувязі".

Колькасць абанентаў, якія карыстаюцца сеткай "Дыялог" ТАА СП "БелСел" перавысіла 65 тысяч; за жнівень колькасць новых падключэнняў да сеткі склала больш за 5 тысяч. Колькасць карыстальнікаў мабільнай сувяззю ў стандарце NMT-450 стабілізавалася на ўзроўні 5 тысяч.

## «Лёгкі» тарыф ад «Velcom»

СП ТАА "Мабільная лічбавая сувязь" (гандлёвая марка Velcom) аб'явіла аб увядзенні новага тарыфнага плана "Лёгкі".

Як паведамілі БелаПАН у кампаніі, разлічаны ён перш за ўсё на пачынаючых карыстальнікаў, а таксама на тых, хто набывае другі тэлефон у сям'ю для сувязі з роднымі.

Абаненцкая плата па новым тарыфным плане складае 2100 рублёў. У гэтую суму ўжо ўключаны 10 хвілін унутрысеткавых размоў, якія можна выкарыстаць для званкоў на любыя нумары Velcom. Усе размовы ў рамках уключаных хвілін тарыфікуюцца пасекундна. Для астатніх размоў дзейнічае 12-секундная тарыфікацыя.

*"Мы спадзяемся, што тарыфны план "Лёгкі" стане прыемным пачаткам "мабільнага" жыцця для многіх тысяч беларусаў",* — падкрэсліў выканаўца абавязкаў генеральнага дырэктара СП ТАА "МЛС" **Мікалай Юшкевіч.**

## Навінкі ад «БелСел»

Кампанія "БелСел" таксама пашырае прадстаўлены ў Беларусі мадэльны рад мабільных тэлефонаў cdma2000, колькасць якіх дасягнула дзевяці. У цэнтрах продажаў з'явілася новая мадэль Giga GSD-430. Тэлефон аснашчаны двума LCD-дысплеямі і валодае шырокім шэрагам дадатковых функцый: якаснай 16-галасавой паліфаніяй, лічбавым дыктафонам, функцыяй гучнай сувязі, тэлефоннай кнігай на 200 ячэек, магчымасцю ажыццяўляць перадачу звестак з хуткасцю да 153,6 Кбіт/с, наборам гульняў.

У верасні, абяцаюць у кампаніі, лінейку мабільных тэлефонаў, што прапануе абанентам "Дыялог", папоўніць першая мадэль з каляровым LCD-дысплеем.

**Ірына САЗАНОВІЧ.**

